# БАЦЬКАЎШЧЫНА

WHITERUTHENIAN WEEKLY „THE FATHERLAND“

Цана 30 н. фэн., для заграніцы — 50 н. ф.

№ 11(55) | 4 ТРАВЕНЯ 1949 Г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 3


## Блякада Бэрліна будзе спынена

Даўно распаўсюджваныя чуткі аб тайных перамовах прадстаўнікоў Савецкага Саюзу з прадстаўнікамі заходніх дзяржаваў у справе спыненьня блякады Бэрліна апошнімі днямі ня толькі афіцыйна пацьвердзіліся, але й стала ведамым, што разьвіваюцца яны памысна, у сувязі з чым трэба лічыцца із хуткім спыненьнем савецкай блякады.

Дэлегацыі ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі, што прыймаюць удзел у цяперашняй сэсіі ЗН, стварылі спэцыяльную камісію, прысьвечаную Бэрлінскаму пытаньню. 28 красавіка гэтая камісія зьвярнулася да савецкага дэлегата ў ЗН Маліка з мэмарандумам, у якім насьветліла становішча заходніх дзяржаваў што да наступных пунктаў:

1. Праектаваная нарада чатырох міністраў замежных справаў ня можа быць перашкодай у стварэньні заходнянямецкага ўраду.

2. Саветы павінны згадзіцца на тое, што перад гэтай нарадай будуць спыненыя ўсе транспартныя й камунікацыйныя агранічэньні з заходніх зонаў Нямеччыны ў Бэрлін.

3. Саветы згодзяцца на тое, што пасьля прыняцьця двух першых пунктаў наступіць устанаўленьне парадку дня нарады чатырох міністраў.

Савецкі дэлегат Малік—паводля «Нью-Ёрк-Таймс» — меў запэўніць амэрыканскага дэлегата Джэзэпа, што Савецкі Саюз згаджаецца спыніць блякаду ў наступным тыдні, калі заходнія дзяржавы прыймуць наступныя ўмовы Саветаў: 1. Адначаснае спыненьне супрацьблякады з боку ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі й 2. устанаўленьне тэрміну склікаьня нарады чатырох міністраў дзеля канчальнага развязаньня пытаньня Нямеччыны.

Добра паінфармаваныя колы Вашынгтону прыпушчаюць, што спыненьне блякады Бэрліна наступіць між 10 і 15 травенем. Паседжаньне рады чатырох міністраў мае адбыцца між 20 і 30 травенем.

Міністар замежных справаў ЗША Эйчысон заявіў, што заходнія дзяржавы аднак не намераныя дапусьціць да паўстаньня камуністычнай Нямеччыны за цану перамір'я ў халоднай вайне. Таксама й брытанскае міністэрства замежных справаў паведаміла, што Вялікабрытанія не зрачэцца пляну стварэньня заходнянямецкай дзяржавы навет у тым выпадку, калі-б з гэтае прычыны былі сарваныя перамовы аб спыненьні блякады й не дайшло да спатканьня чатырох міністраў. Падобнае становішча заняў і ўрад францускі. На думку францускага міністэрства замежных справаў прыймаецца дзень 15 травеня, як апошні тэрмін прыняцьця заходнянямецкай канстытуцыі ў Бон, 15 ліпень, як дзень выбараў у нямецкі фэдэральны парлямант, і 15 жнівень, як тэрмін стварэньня заходнянямецкага фэдэральнага ўраду.

### ПАВЕТРАНЫ КАЛІДОР АДНАК АСТАНЕЦЦА

Урадавыя амэрыканскія колы паведамляюць, што, ня гледзячы на магчымае хуткае спыненьне блякады, паветраны калідор у Бэрлін ня толькі астанецца, але й далей энэргічна будзе разбудоўвацца. Адзін высокі афіцэр амэрыканскага лётніцтва падаў да ведама пункт гледжаньня на гэтую справу амэрыканскіх урадавых дзейнікаў. Ён заявіў: «Мы не павінны супакоіцца, што, прыкладам, заўтра блякада будзе спыненая, бо няма ніякай пэўнасьці ў тым, што ў наступным тыдні яна ўзноў ня будзе паўтораная. Таму мы думаем паважна над тым, як далей разбудаваць паветраны калідор».

### САВЕТЫ ХОЧАЦЬ СТВАРЫЦЬ УСХОДНЯНЯМЕЦКУЮ ДЗЯРЖАВУ

Згодна паведамленьня агенцтва УП, Савецкі Саюз абяцаў нямецкім камуністым заключыць ўмову з усходняй Нямеччынай і анulяваць усе дасюлешнія дамаганьні васнных адшкадаваньняў у выпадку, калі будзе створаная ўсходнянямецкая дзяржава. Маюць быць таксама праведзеныя прыгатаваньні для распачацьця перамоваў дзеля заключэньня пактаў прыязьні й узаемнае дапамогі з усходняэўрапэйскімі дзяржавамі.

### НА БЕЛАРУСІ ПАРТЫЗАНСКАЕ ЗМАГАНЬНЕ НЕ СЬЦІХАЕ

**Амэрыканская газэта для немцаў «Нойе Цайтунг» у нумары з дня 30.4.1949 — за агенцтвам УП — паведаміла, што «за зялезнай заслонай дзеіць партызанская армія ў сіле 145.000 чалавек, зложаная з палякаў, беларусаў і ўкраінцаў...» Беларуская партызанская армія — згодна гэтага паведамленьня — «пануе над лясамі ў ваколіцах Коўна, Маладэчна, Ліды й Баранавіч»...**

**Вялікі нямецкі тыднёвік «Тэлеграм дэр Вохэ», што выходзіць у Бэрліне, зьмясьціў нядаўна вялікі рэпартаж нямецкага ваеннапалоннага Пэтэра А., што ўцёк з гораду Горкага й быў потым зьвязным беларускай падпольнай арганізацыі «Чорны Кот» у Берасьці над Бугам. Між іншага ён піша: «Чорны Кот», УПА і НСЗ — тры вялікія рухі супраціву: беларускі, украінскі й польскі. Яны маюць разам каля 250 тысячаў жаўнераў. Кажная з гэтых партызанскіх арміяў апэруе самастойна на сваей тэрыторыі, маючы адну мэту — адбудову вольнае й дэмакратычнае незалежнае дзяржавы. Супрацоўніцтва між гэтымі арганізацыямі аднак значнае. Яны абменьваюцца інфармацыямі й маюць каардынацыйны штаб, які знаходзіцца ў Берасьці... Ужо перад некалькімі месяцамі ў Берасьцейскім штабе быў выданы загад каардынацыі ўсіх актыўных партызанскіх сілаў да канца 1949 г. Гэткім спосабам мае быць запэўненая магчымасьць неспадзяванага й пасьпяховага ўдару, калі настане адпаведны час...».**

## Пасьля Нанкіна - чарга на Шанхай

Пасьля таго, калі перамовы ўраду нацыянальнага Кітая з камуністымі аб перамір'і не прывялі да нічога, камуністычная армія распачала генэральны наступ на ўсім фронце, ломячы супраціў урадавых войскаў. 24 красавіка камуністыя занялі сталіцу нацыянальнага Кітая Нанкін пасьля таго, як урад шмат раней перад гэтым перанёсься ў Кантон. Камуністычная армія ў многіх месцах перайшла цераз раку Янтсэ — галоўную абаронную лінію на паўдні — і ўтварыла фронт 500 клм. удаўжкі на паўдня ад яе, акружаючы амаль поўнасьцю другі, паза Нанкінам, важны пункт паўдзённага Кітая — горад Шанхай, які налічвае 6 мільёнаў жыхараў. На думку вайсковых назіральнікаў, камуністыя спачатку будуць старацца здабыць горад Гангчаў, каб такім чынам поўнасьцю акружыць Шанхай. Многія амэрыканцы пасьпешна ўцікаюць з гэтага гораду. Аднак паўтары тысячы амэрыканцаў і каля 4 тысячаў ангельцаў пастанавілі астацца ў Шанхаі.

Зь Лёндану паведамляюць, што Вялікабрытанія будзе ў недалёкай будучыні ўтрымліваць два дыпляматычныя прадстаўніцтвы ў Кітаі: адно пры ўрадзе нацыянальным, а другое—пры камуністычным. Заўважаецца, што гэта будзе раўняцца прызнаньню дэ факто камуністычнага Кітая. Брытанскі пасол у Нанкіне астаўся на сваім становішчы і надалей. Брытанскія кансуляты ў Пэкіне, Мукдэне, й Тыенцсыне прадаўжаюць сваю працу. Пры нацыянальным кітайскім урадзе часова няма ніводнага дыпляматычнага прадстаўніцтва Вялікабрытаніі. Як паведамляюць з Вашынгтону, таксама й амэрыканскія дыпляматычныя прадстаўніцтвы астаюцца й надалей у мясцовасьцях, занятых камуністымі.

Маршал Чан-Кай-Шэк, які нядаўна зрокся становішча прэзыдэнта Кітая, каб не перашкаджаць распачацьцю мірных перамоваў з камуністымі, зьвярнуўся цяпер з заклікам да кітайскага народу. Ён прызваў кітайскі народ «згодна й мужна прадаўжаць змаганьне дзеля вызваленьня бацькаўшчыны». Ён падчыркнуў: «На працягу трох год перамога будзе нашая».

### ПРАВАЛ ДАЛЁКАЎСХОДНЯЙ ПАЛІТЫКІ

«Камуністычная перамога ў Кітаі — гэта падзея, што сваімі разьмерамі зьяўляецца падобнай да патопу; вынікі яе будуць мець уплыў ня толькі на Азію, але й на ўвесь сьвет—піша «Нью-Ёрк Тамс». Камуністычны наступ у Кітаі — гэта адказ Сталіна на Атлянтыцкі пакт і пляны Трумана й Маршаля. Камуністычная перамога ў Кітаі ня толькі абазначае паражэньне Захаду, у прыватнасьці ЗША, але зьяўляецца поўным правалам далёкаўсходняй палітыкі наагул».

### ГРОЗНАЯ ПЕРАСЬЦЯРОГА

Амэрыканскі генэрал Чэноўльт асьветчыў на прэсавай канфэрэнцыі, што выпадкі ў Кітаі могуць хутчэй выклікаць трэйцюю сусьветную вайну, чымсьці выпадкі ў Эўропе. Ужо найбольшы час,— заявіў ён — каб ЗША абнялі кіраўніцтва рухам супраціву проціў камунізму, што шырыцца па ўсім сьвеце. Калі разьвіцьцё падзеяў у Кітаі ня будзе паўстрыманае, дык хутка наступіць час, што камуністыя апануюць увесь прастор Ціхага акіяну. Камуністычная магутнасьць у Кітаі зьяўляецца большай загрозай, чымсьці была Японія перад вайной. Трагэдыя Кітая ёсьць вынікам памылак ЗША. Неабходнай ёсьць безадкладная помач Кітаю — цьвердзіць генэрал.

---

«Галоўнакамандуючы амэрыканскіх акупацыйных войскаў у Японіі генэрал Мэк Артур, у сувязі з наступам кітайскіх камуністых, якія, напэўна, не задаволяцца здабыцьцём Шанхая, але будуць прасоўвацца далей на поўдзень , ужыў інтэнсыўных абаронных захадаў»,- паведамляе часапіс «Вашынгтон Стар». Мэк Артур заявіў, што, на яго думку, Японія апыніцца ў сфэры савецкіх уплываў, калі ня будзе ў час паўстрыманы камуністычны наступ. Ён таксама лічыцца з актывізацыяй пятых калёнаў у паўдзённай Карэі й Японіі.

---

Міністар Эйчысон мае запрапанаваць амэрыканскаму кангрэсу прызнаць 1,4 мільярда даляраў на вайсковую помач заходняй Эўропе й паўдзённай Карэі.



Сталінскае плаваньне

## На службе расейскага імпэрыялізму

Палітычны кірунак, узначалены сяньня зь мёртвых ускрошанай Астроўскім Беларускай Цэнтральнай Радай, а які сярод грамадзянства атрымаў папулярны назоў зарубежніцтва, не зьяўляецца ў беларускім палітычным жыцьці нейкім новым зьявішчам, паўсталым якраз толькі цяпер на эміграцыі. Гэты кірунак паявіўся ўжо тады, калі наагул пачалося беларускае адраджэньне, і заўсёды быў войстрым аружжам у руках імпэрыялістычнае палітыкі Расеі, якая пры яго помачы намагалася аслабіць і падпарадкаваць сваім плянам, калі ня зьнішчыць зусім беларускі нацыянальны рух. Ужо ў часы Багушэвіча гэты кірунак, як ведама, выяўляецца ў г. зв. «западнорусізьме», у пэрыяд нашаніўскі ён гуртуецца вакол чарнасоценных газэтаў «Крестьянин» і «Белорусская Жизнь», выдаваных у проціўвагу «Нашай Ніве», а ў мамэнт будавання беларускае дзяржаўнасьці ў 1917 і 1918 г. г. у дзейнасьці г. зв. «абласьнікоў», якія стаялі на грунце непадзельнасьці Расеі й змагаліся супраць незалежнасьці Беларусі

Усе гэтыя прарасейскія плыні ставілі тады справу адкрыта: яны, служачы маскоўскім імпэрыялістычным інтарэсам, выразна й адкрыта высказваліся ня толькі супраць незалежнасьці Беларусі, але й супраць нацыянальнае апрычонасьці беларускага народу, дапускаючы толькі большыя ці меншыя меры бліжэй неазначанага рэгіяналізму для Беларусі. Сяньня ўжо тактыка гэтага кірунку дыямэтральна зьмянілася, хоць мэты асталіся тыя самыя.

Узрост беларускае нацыянальнае сьведамасьці й папулярнасьць незалежніцкае ідэі прымусілі сяньня прарасейскую плынь таксама «стаць на акце 25 сакавіка», дэклямаваць направа й налева аб сваім беларускім патрыятызьме ды час ад часу дзеля тактычных меркаваньняў акцэнтаваць і сваю супрацьрасейскасьць, хаця ў практычнай дзейнасьці плынь гэтая зьяўляецца поўным запярэчаньнем ідэі беларускае незалежнасьці.

Калі мы беларускім зарубежнікам закідаем дывэрсыйнасьць супраць нацыянальна-незалежніцкіх інтарэсаў беларускага народу, а скіраваную на карысьць расейскага імпэрыялізму, дык маем на гэта канкрэтныя факты. Нацыянальны абавязак нас змушае гэтыя факты раскрываць перад грамадзянствам, каб паказаць яму ўсю шкоднасьць зарубежніцкай дзейнасьці й гэтым самым ня толькі перасьцерагчы нашых суродзічаў перад арыентацыяй на зерубежніцтва, але таксама й змабалізаваць ягоныя сілы на змаганьне зь ім, як із зьявішчам узапраўды шкодным, антыбеларускім, супрацьнезалежніцкім.

Ужо сам факт, што дзейнасьць зарубежніцтва носіць выразна дэструкцыйны характар і зьяўляецца накіраванай на разьбіцьцё беларускага нацыянальнага адзінства, на ўношаньне дэзарыентацыі й хаосу ў беларускія масы, вымоўна сьветчыць, што дзейнасьць гэтая служыць не беларускім, але чужым і варожым нам інтарэсам. Усё гэтае, будучы непасрэдным довадам дывэрсыйнага характару зарубежніцтва, зьяўляецца ўжо пасрэдным довадам ягонае прарасейскасьці, бо, як ведаем, і расейскія палітычныя колы ўсякіх колераў і кірункаў вядуць сяньня ў дачыненьні да нас такую-ж самую акцыю. Але ня гледзячы на факт стараннага маскаваньня зарубежнікамі сваіх запраўдных намераў, ня могуць яны схаваць перад вокам грамадзкасьці выразных, канкрэтных і незапярэчных мамэнтаў ня толькі сымпатыі да расейцаў, але й палітычнага супрацоўніцтва зь імі.

Першай выразнай праявай прарасейскасьці групы беларусаў з пад знаку сяньняшняй БЦР было поўнае апрабаваньне й падтрыманьне імі шкоднага з нацыянальнага гледзішча факту адыходу былага беларускага япіскапату ад Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы й уліцьця іх у Расейскую Зарубежную Царку (адсюль і назоў — «зарубежнікі»). Гэты сумны факт быў на толькі супярэчны зь беларускімі нацыя-

